# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671




№ 42 (1640) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 18 КАСТРЫЧНІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.


## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

Многа месца ў сваёй працы Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ адводзіць праблемам, звязаным з пабудовай беларускага музея ў Гайнаўцы. На пасяджэнні Прэзідыума, якое адбылося 17 верасня г.г., разглядалася справа ўвядзення пабудовы ў ваяводскія інвестыцыйныя планы.

Праект прадбачвае, што Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы змяшчацца будзе ў трох паасобных будынках, спалучаных між сабою. Умоўна назвалі іх літарамі А, В і С. Кошт пабудовы ўсяго калектыву велізарны і зараз не пад сілу камітэту і ўладам. У сувязі з фінансавымі клопатамі вырашана весці пабудову ў двух этапах. Ваяводскія ўлады прапануюць, каб у гэтай пяцігодцы рэалізаваць I этап, абмежаваны будынкам А, г. зн. прыстасаваннем да музейных спраў былога фабрычнага цэха. У сувязі з тым, што пад будынкам В запраектавана ўсё тэхнічнае абсталяванне для цэлага музейнага комплексу, функцыяніраванне часткі А было б тэхнічна немагчымым.

Прэзідыум ГП запрапанаваў, каб у I этап пабудовы музея ўключыць адаптацыю будынка А і дабудову ў сырым стане будынка В і рэалізаваць яго ў га-

(Працяг на стар. 2)



Навасады пад Гайнаўкай. Фота В Завадскага.

## АДГАЛОСКІ

### У ПРЫРОДЗЕ НІЧОГА НЕ ПРАПАДАЕ

Добры дзень, дарагая „Ніва“! Я не пісаў табе даволі доўга. Не падумай, што пагневаўся я. Бо і за што? З вамі я заўсёды знаходжу спакой і адчуваю радасць на сэрцы.

Усё збіраўся я неяк напісаць у рэдакцыю ды часу мала або чым іншым галава занята. Але прачытаў я ў трыццаць пятай „Ніве“ артыкул Уладзіміра Сідарука „Не развальвай таго, чаго не збудаваў“ і страціў спакой. Усё нешта нашэптвала мне: „Яно і само распадаецца...“ Няўжо памыляюся? Значыць, наконт дзейнасці нашага Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Скажу тут пра наш, тутэйшы, гурток БГКТ. Заснаваў яго нябожчык Васіль Дзун, гэта былі шасцідзесятыя гады. Столькі ўжо гэты наш гурток існуе, але, прабачце мне шчырасць, на паперы ён існуе, не болей. Як кажуць у народзе, „ахрысціў і ў свет пусціў“. А што вырасце, аднаму Богу вядома. Так і з нашым гуртком БГКТ выйшла. Ёсць яшчэ і такая мудрасць: у прыродзе нічога не прападае. Аказалася, пасля амаль трыццаці гадоў такога папяровага існавання нашага гуртка БГКТ наведалі яго высокія госці, высокія, бо ажно з самога Галоўнага праўлення БГКТ! Сам Кастусь Майсеня, намеснік старшыні ГП БГКТ, завітаў да нас. А здарылася гэта перад дзесятым, шумным, з'ездам БГКТ. Мы тады і даведаліся, што наш гурток надалей існуе, і пачулі нават, колькі ў ім членаў налічваецца. Майсеня наладзіў пераклічку: хто памёр — скрэсліць, а хто яшчэ ў жывых — няхай будзе членам. І так аднавіўся гурток. Можна сказаць, адбыў „перастройку“. Адбыліся ў ім новыя выбары ў праўленне, пасыпаліся новыя абяцанкі. А абяцанак тых поўны мяшок, аж пад самую завязку! І так, гурток існуе, як існаваў.

Усё-такі, трэба сказаць, існуе ўжо не такім мёртвым існаваннем, але гэта дзякуючы Пятру Скепку з Дубінаў. Мела месца сустрэча, адна, і наколькі памятаю, з нагоды гадавіны трагічнага з'езда Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў 1926 годзе ў нашым Стараберазове. Народу процьма прывалiла на сустрэчу, і ад галоўных уладаў прадстаўнікоў, бадай траіх, прыімчала. Усё адбылося „на сто два!“ — ізноў абяцанкамі сыпанулі і планаў розных па-

(Працяг на стар. 4)

## ШТО Ў НОВЫМ СЕЗОНЕ?

У жыцці культурных установ і арганізацый кастрычнік з'яўляецца месяцам, які распачынае новы сезон. Таксама і ў БГКТ пасля летняга перапынку пачынаюць працу гурткі і аддзелы, а ў святліцах і клубах зноў адбываюцца рэпетыцыі нашых калектываў. Новы, 1987/1988 культурна-асветны сезон прынясе з сабой важныя падзеі ў жыцці нашага таварыства. У маі 1988 года адбудзецца XI з'езд БГКТ, які падвядзе вынікі нашай дзейнасці за апошнія чатыры гады і намеціць напрамкі дзейнасці на новую кадэнцыю. У сувязі з гэтым чакае ўсе звенні таварыства аграмадная арганізацыйная праца. Справаздачна-выбарная кампанія перад XI з'ездам БГКТ пачнецца ўжо ў кастрычніку. На працягу шасці месяцаў адбудуцца сходы ў гуртках і канферэнцыі ў аддзелах, будуць выбраны дэлегаты на з'езд.

У 1988 годзе адзначаць будзем 30-годдзе літаб'яднання „Белавежа“ і беларускай радыёперадачы. У каляндар культурна-асветных мерапрыемстваў у сезоне 1987/1988 запісаны ўсе тыя формы, якія знайшлі грамадскую падтрымку ў мінулых гадах.

Як кожны год, Галоўнае праўленне БГКТ супольна з рэдакцыяй „Нівы“ і Кураторыяй асветы і выхавання арганізоўваць будзе конкурсы для школьнай моладзі. Прадбачваецца дэкламатарскі конкурс, агляд школьных тэатральных калектываў і конкурс „Беларуская песня-88“.

Для членаў і сімпатыкаў БГКТ наша таварыства прапанаваць будзе многа культурных мерапрыемстваў. Сярод іх асаблівае месца займае конкурс „Беларуская песня“. У апошніх гадах гэты конкурс мае ўсё больш выканаўцаў і дасягнуў высокага мастацкага ўзроўню. Заваяваў таксама вялікую папулярнасць сярод беларускай грамадскасці. Немагчыма далей праводзіць гэты конкурс у такой форме, як дагэтуль. Каб паказаць як мага больш самых лепшых спевакоў і калектываў, не хапае ўжо двух дзён на цэнтральны агляд. Таму будзем старацца, каб конкурс „Беларуская песня-88“ праходзіў у новай, зьмененай форме.

Беларускія драмгурткі будуць мець магчымасць прыняць удзел у аглядзе тэатральных калектываў у красавіку наступнага года.

Гурткі і аддзелы БГКТ будуць арганізатарамі масавых мерапрыемстваў, разлічаных на шырокі круг удзельнікаў. У снежні і студзені будуць праходзіць навагоднія святкаванні. З мэтай папулярызацыі дасягненняў БГКТ у летнія месяцы адбудуцца ў гарадскіх і вясковых асяроддзях дні беларускай культуры і народныя фэсты.

Традыцыйна ўжо ў купальскую ноч над берагамі рэк сустрэнуцца нашы калектывы, каб прыпомніць старажытны, народны абрад Купалля і пака-

(Працяг на стар. 2)




# АБ ДАНОСЕ ПЕРШЫМ

Гадоў шэсць таму назад атрымаў я з міліцыі паведамленне, якое гаварыла аб тым, што я ў такі а такі дзень, а такой а такой гадзіне павінен паявіцца пад такім а такім адрасам, у такім а такім пакоі. Тэрмін быў даволі адлеглы, прыблізна дзён дзесяць. На працягу гэтых дзесяці дзён я вельмі мучыўся, стараючыся дадумацца, чаго гэта міліцыя выклікае мяне.

Пражыўшы ў цяжкіх мучэннях гэтыя дзесяць дзён, пайшоў я ў Варшаўскі міліцыйны раён на Макатове. Аказалася, што перад дзвярыма „майго" пакоя стаіць чалавек сем і ва ўсіх грамадзян на тварах рысуецца трывога. Я, думаючы, што нас усіх папрасілі ў той самай справе, паспрабаваў з некаторымі з сабраных гаварыць, аднак усе аднекваліся. Даведаўся я толькі наконт аднаго: што ў гэтым пакоі змяшчаецца следчы аддзел. Зразумела, што мая трывога паглыбілася.

Час ад часу выглядалі з пакоя міліцыйныя работнікі, якія, зрэшты, былі ў цывільнай вопратцы і выклікалі аднаго за другім з нашай сямёркі. Урэшце выклікалі і мяне. Перада мною сядзеў параўнаўча малады чалавек. Ветліва папрасіў мяне сесці, зверыў мае біяграфічныя дадзеныя і палажыў перад сабой чысты ліст паперы і шарыкавую ручку.

— І так, — сказаў ён, — мы атрымалі інфармацыю, што вы займаецеся спекуляцыяй... Ну, гандлем старыннымі каштоўнымі прадметамі. Што вы скажаце на гэту тэму?

Напружанасць, якая накаплівалася ўва мне на працягу дзесяці дзён, раптам паляцела стрымгалоў у нейкую прорву. Даведаўшыся аб прычыне, з-за якой мяне сюды выклікалі, мне захацелася рассмяяцца. Я зразумеў, што нехта падкінуў міліцыі ананімку аб Баршчэўскім-спекулянце. А ў сувязі з тым, што такім дзеяннем я ніколі не займаўся, я зразумеў, што ніякай крыўды ні міліцыя, ні суд мне зрабіць не можа.

— А што вы маеце на ўвазе, гаворачы аб старынных каштоўных рэчах, — спытаў я следчага.

— Ну, іконы, старынны посуд, серабро, каштоўныя камені, самавары.

— З гэтага, што вы назвалі, у мяне ёсць толькі самавары. Сабраў я іх каля васьмідзесяці штук. І не знойдзеце ў гэтай краіне чалавека, які б сказаў, што я прадаў яму самавар, але знойдзеце многа такіх, ад якіх я купіў самавар. Па-другое, гэтыя самавары з'яўляюцца маёй уласнасцю і, калі схачу, дык прадам іх па адным або ўсе гуртам. Аднак я не прадбачваю такой магчымасці, бо самавары гэтыя для мяне перш за ўсё багацце эстэтычнае, а не матэрыяльнае.

Следчы досыць уважна мяне выслухаў, пасля працягнуў мне ліст паперы і сказаў, каб я напісаў на ім, што спекуляцыяй старыннымі прадметамі не займаюся, што я зрабіў вельмі ахвотна. Гэтым і скончылася ўся гісторыя.

А самавары я збіраю ў далейшым і маю іх ужо болей чым сто. Інфармацыю гэту падаю перш за ўсё з думкай аб даносчыку, якога сказанае мною, мабыць моцна паскрабе па душы, калі ён яе мае.

**Алесь Барскі**




❋ Больш як на тысячы прадпрыемствах у бягучым годзе ўзрасла заработная плата пры аднагасовым змяншэнні прадукцыі. Гэта, мусіць, ужо трэці этап рэформы.

❋ Найвышэйшы суд прыняў пастанову, згодна з якой прадавец абавязаны не толькі звярнуць пакупніку поўную вартасць зарэкламаванага тавару, але таксама ў выпадку павелічэння яго цаны — розніцу паміж папярэдняй цаною і новай, абавязваючай у дзень звароту грошай.

❋ У аднаасобнай сялянскай гаспадарцы штогод здараецца 60 тыс. няшчасных выпадкаў, якія выклікаюць інваліднасць і трывалую нядольнасць да працы. З гэтага ліку каля 600 сялян памірае.

❋ У Кракаве, калі курыш папяросу і недакурак кінеш на вуліцу ці ходнік, а не ў кош, міліцыя штрафуе па 1 тыс. зл. Пакаранні за бескультурнасць маюць выхаваўчы ўплыў.

❋ Нягледзячы на афіцыйныя запэўненні, што ў дзяржаўнай адміністрацыі будзе змяншацца колькасць працаўнікоў, аднак у гадах 1980—86 пабольшылася іх амаль на 30%. У гаспадарчай адміністрацыі працуе ўжо амаль 2 млн. чалавек.

❋ Найбольшым экспарцёрам збожжа ў свеце з'яўляюцца Злучаныя Штаты Амерыкі. У гадах 1976—85 прадалі яны больш аднаго мільярда тон збожжа і атрымалі за яго каля 150 мільярдаў долараў. Сацыялістычныя краіны купілі амаль 600 млн. тон і заплацілі каля 90 мільярдаў долараў.

❋ Сатэлітарнае тэлебачанне ў нас пакуль што толькі для багацеяў. Абсталяванне адпаведнай антэны каштуе 1200—1500 долараў у крамах „Пэвэксу". Танней у прыватных фірмах: ад 900 да 1200 долараў.

❋ Амаль 3,5 млн. га зямлі чакае ў Польшчы меліярацыі. Каб дачакаліся, збіралі б мы на 1,5 млн. тон збожжа больш.

**Апр. М.Х.**

### PRENUMERATA PRASY RADZIECKIEJ

RSW „Prasa-Książka-Ruch" Przedsiębiorstwo Upowszechniania Prasy i Książki w Białymstoku zawiadamia, że Oddziały i Ekspedycje RSW rozpoczęły przyjmowanie zamówień na prenumeratę prasy radzieckiej na 1988 rok.

Instytucje państwowe, społeczne, szkoły i zakłady pracy z terenu województw: białostockiego, łomżyńskiego i suwalskiego mogą składać zamówienia w najbliższych Oddziałach lub Ekspedycjach RSW.

Prenumeratorzy indywidualni abonują prasę radziecką we wszystkich Oddziałach i Ekspedycjach RSW, w klubach prasy i książki „Ruch" oraz wytypowanych kioskach „Ruch".

W Białymstoku zamówienia przyjmuje I Oddział RSW „Prasa-Książka-Ruch" ul. Kopernika 93, tel. 227-85 oraz Klub Międzynarodowej Prasy i Książki (ul. Sienkiewicza 3) i kiosk „Ruch" przy ul. Próchniaka.

### ДАРАБІЦЬ НЕДАРОБЛЕНАЕ

У Курашаве праведзена меліярацыя. Адзін меліярацыйны роў праходзіць пад вуліцай вёскі і там зрабілі тратуар. Аднак гэты тратуар настолькі няўдайна зроблены, што, ідучы папоцемку, можна забіцца на ім! А яшчэ не парабілі ж парэнчаў, без якіх можа хто і ўваліцца ў той роў.

Хто прымусіць будаўнікоў дарабіць недаробленае імі?

**Асот**

(Працяг са стар. 1)

### ШТО Ў НОВЫМ СЕЗОНЕ?

заць сваё спявачае майстэрства.

Для адзначэння 30-годдзя літаб'яднання „Белавежа" будзе аб'яўлены чытальніцкі конкурс, а ў чэрвені адбудзецца ў Беластоку навуковая канферэнцыя з удзелам краёвых і замежных літаратуразнаўцаў.

Слухачы беларускай радыёперадачы будуць мець магчымасць прыняць удзел у конкурсе, аб'яўленым з нагоды яе юбілею.

У паасобных клубах, святліцах і школах будзе адбывацца вечарыны і акадэміі для ўшанавання дзяржаўных гадавін і свят, а таксама аўтарскія сустрэчы і канцэрты нашых аматарскіх калектываў. Спадзяемся, што ў гэтым годзе ў рукі членаў трапіць „Беларускі каляндар на 1988 г." і кніжка Васіля Петручука „Пожня".

Звяртаемся да членаў і сімпатыкаў БГКТ з заклікам уключыцца ў беларускую культурна-асветную дзейнасць, прыняць удзел у мерапрыемствах, арганізаваных нашым таварыствам.

**Віталій Луба,**
сакратар ГП БГКТ

(Працяг са стар. 1)

### У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП

дах 1987—1989, а таксама пацвердзіў магчымасць забеспячэння 30% коштаў у форме грашовых узносаў, матэрыялаў, грамадскай працы.

Далей Прэзідыум заслухаў інфармацыю аб падрыхтоўцы да пабудовы беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Вырашана гэта пытанне дэталёва прааналізаваць на кастрычніцкім пасяджэнні.

Пасля гэтага члены Прэзідыума разгледзелі справаздачу аб культурна-асветнай дзейнасці таварыства ў мінулым сезоне. Прэзідыум звярнуў увагу на выступаючыя цяжкасці і недахопы, рэкамендаваў элімінаванне адмоўных з'яў, якія здараюцца пры арганізаванні культурных мерапрыемстваў.

З увагі на фінансавыя і арганізацыйныя цяжкасці Прэзідыум ГП вырашыў не наладжваць урачыстага адкрыцця новага культурна-асветнага года. Прапануецца, каб замест гэтага адбыўся грамадскі пачын дзеячоў культуры пры будове беларускага музея ў Гайнаўцы. **(л)**

# БЕЛАРУСКАЯ АТМАСФЕРА

Пад канец лета адбылася ў Бельску сельскагаспадарчая выстаўка, якая выклікала нечуванае дагэтуль зацікаўленне. У гэтай выстаўцы прыняў удзел і наш Валянцін Семянюк з Райкоў, не толькі добры гаспадар, але і добры карэспандэнт „Нівы". У яго намалоты пшаніцы да трыццаці цэнтнераў з гектара, а бульбы накопвае ён да трохсот цэнтнераў.

Былі і дажынкі.

Землеробы, гаспадары нашы працавітыя, кормяць народ хлебам, за што не грэх і рукі ім цалаваць! Як цалавалі калісьці крышынку хлеба, што незнарокам упала на падлогу. Перапрашальна цалавалі. Іван Мусько з Гацькоў здаў семдзесят дзевяць тон збожжа, адзін ён. Па пяцьдзесят тон здалі Уладзімір Міхальчук з Кожына, Збігнеў Бардадзін з Кнаразоў, Яўген Нявінскі з Бельска (і ў горадзе ёсць гаспадары!).

Старасціхай дажынак была Крыстына Сабатынская з Ляўкоў. У яе гаспадарка з дзевяці гектараў. Яна за 1986 год здала збожжа, мяса і ўсяго іншага з сваёй гаспадаркі на суму амаль дзевяцьсот тысяч злотых. Адзін гектар даў ёй амаль сто дваццаць тысяч зл., а ўмалоту — каля трыццаці васьмі цэнтнераў. Старастам быў Станіслаў Радзіцкі, таксама вядомы працаўнік, лаўрэат трэцяга месца ў чацвертым міжнародным конкурсе ратаёў у мінулым годзе, арганізаваным у рамках РВПГ. Гэта не жарты, здабыць такое высокае месца аж у такім конкурсе!

Было дванаццаць вянкоў, усе прыгожыя, але найпрыгожы — беларускі з Кнарыдаў. Былі і конкурсы — конкурс малацьбы цэпам (дзе яны і вынайшлі іх яшчэ?), конкурс вязання пярэваслаў, і іншыя, як, напрыклад, убіванне цвікоў у дошку, у якім прымалі ўдзел адны жанчыны, бойкія такія! Быў турнір сучаснага танца, у якім выступіў — увага! — і наш Валянцін Семянюк, зграбна танцуючы з 82-гадовай Аннаю Амбрашкевіч з Ляўкоў. Мяне найбольш зацікавілі жніўныя прыспеўкі, дзякуючы якім адразу запанавала на дажынках беларуская атмасфера. Спявалі з Аўгустова, Ляўкоў, Кнаразоў; з Пілікаў выйшлі спяваць Рая Врублеўская, Ліда Сідорская, Настасія Сідорская, гэта значыць: маці, дачка і цёшча. Спявачка з Парцава праспявала песню „Аб касарах" на мелодыю песні „Беласточчына". З Райска пачулі мы тыповыя прыспеўкі, не толькі жніўныя. Потым выступілі вядомыя „Бярозкі" з Кнарыдаў, ну і трохі польскіх спевакоў.

Хоць дождж ішоў і дзьмула холадам, народ не разыходзіўся.

**Андрэй Гаўрылюк**

(Працяг са стар. 1)




крэмзалі, надумалі аўтарскіх сустрэч, вечарынаў, нават беларускі фэст меўся быць у нашым ваколлі. І што? І нічога! Як было, так і засталося.

Старшыня нашага гуртка падаў у адстаўку. Сказаў: адчапіцеся! І год за годам мінаюць, а новага старшыню не выбіраюць. Добра і без яго. Ціха, спакойна. Ніхто і нічога не хоча. Поўная раскоша. Гурток існуе, і даволі. Вядома, у папяровым свеце існуе ён.

Так што, паважаны Сідарук, не надта што ёсць і развальваць у нас. Бо, каб што разваліць, трэба, каб нешта было. Лагічна, не? А мы наракаем на Івана Кірызюка, які развальвае тое, чаго няма. А таму нічога няма, што самі мы хочам, каб нічога не было. Кажуць людзі: рыба пачынае псавацца ад галавы. Можа і ў нашай справе так яно выглядае?... Бо сітуацыя цяпер такая: няхай прыехаў бы да нас усё роўна хто: ці з Украінскага таварыства, ці з Літоўскага таварыства, ці нават з Яўрэйскага — напэўна арганізаваў бы тут свой гурток! Як піць даць, арганізаваў бы! А калі б яшчэ і паабяцаў нешта цікавае, найлепей „залатыя горы“, дык новы гурток быў бы, як звон: стойкі і згуртаваны. Не вялікая гэта штука арганізаваць нейкі гурток. Важнае што іншае: чым чалавек дыхае, чым жыве і за што перажывае ён, кім сябе адчувае. Кожны можа што захоча сказаць, але мы тут у сябе ведаем, хто мы. Ведаем, што мы — беларусы! Ад прадзедаў беларусамі мы на зямлі сваёй старажытнай.

І чаго ж тады здзіўляцца Кірызюковай дзейнасці?! Кажуць, робіць ён цяпер ва Украінскім таварыстве, дык і выконвае свае службовыя абавязкі. А хлопец ён не нудны, з агеньчыкам. Хоча ён нешта пакінуць пасля сябе? У нашым Беларускім грамадска-культурным таварыстве варункаў ён для сябе не знайшоў. Пісаў ён, пісаў, у „Ніве“ друкаваўся, і гэта ўсё, што дадзена яму. А ён жа і паэт яшчэ, але зборнічка з яго вершамі не выдалі яму ў БГКТ. І не выдалі б, пэўна. А Украінскае таварыства выдала яму зборнічак з яго вершамі, і то як хутка! І з пашанаю. І мне адзін экземпляр зборнічка свайго прыслаў ён на памяць, не забыўся пра сябра. Культурна ўчыніў. Перасылаю яму я з гэтага месца сардэчную падзяку за кніжыцу! Ведаю: ён чытае „Ніву“. Ён надалей чытае яе, не пакідае. Шкада толькі, што кніжыца Кірызюка Івана не на нашай мове беларускай.

Усяляк у жыцці бывае.

**Грыша Мароз**

Добрае чуваць далёка, а благое яшчэ далей.

*

За маной свет пройдзеш, ды назад не вернешся.

*

Які госць, такое і частаванне.

## Свойскія малюнкі



*Беласток, Пяскі. Мал. Уладзіслава Петрука.*

(Працяг са стар. 3)

Да шашы засталося ўжо не болей трохсот метраў, калі раптам з-за павароту паказаўся сілуэт аўтобуса. Пырхаючы клубамі смуроднага дыму, машына набліжалася да прыпынка, што каля мосціка. Часу было мала. У адзін момант перад вачыма Жабы як жывыя мільганулі сяброўскія хары, радочкам прабеглі бутэліцы халоднага півца, а ўсё гэта прыгьміла яркая постаць прыгажуні-гімназісткі.

Часу было мала. Рашаць трэба было неадкладна. Жаба вырашыў! Трэцякласнік Валодзька не паспеў нават дастаць з носа палец, як ужо ляжаў на свежай пожні, перанесены туды сілай надзвычай моцнага штуршка. „Украіна“, 6-ая мадэль, аж застагнала і, быццам бы разумеючы драматычнасць абставін, рванула наўздагон харляваму аўтобусу.

— Хутчэй, хутчэй! — шапталі налітыя пшанічныя каласы, нахіляючыся да дарогі.

— Хутчэй, хутчэй! — шчабяталі пад самым небам жаваранкі.

— Бяжы, бяжы! — шуршэў пясок пад коламі.

Паспелі! Жаба энергічна прытармазіў. Кінуў веласіпед у прыдарожны роў і адным скокам апынуўся ў аўтобусе.

— Ббб... Бельск-Падляшскі, — выхаркаў астаткам сіл.

— Дваццаць восем злотых, — спакойны голас шафёра вярнуў яго ў рэчаіснасць.




Не лічачы, Жаба кінуў рэшту ў кішэнь (шафёр, зразумела, ашукаў яго на дзесяць злотых) і пачаў прапіхацца ў канец аўтобуса. У думках ён ужо прыводзіў да граху гімназістку-прыгажуню, калі раптам... неба зацягнула цёмнымі хмарамі, падняўся вецер, уздымаючы клубы пылу і... Жаба ўбачыў, як дзядзька, які толькі што вылез з аўтобуса, бярэ ляжачую ў рове „Украіну“, сядае на яе быццам бы яна была яго ўласнасцю, і едзе! У той жа час рушыў і аўтобус. Жаба кідаецца ў вакно, але зрабіць ужо нічога немагчыма. Блізка, зусім блізка бачыць ён твар дзядзькі, на якім цвіце подлая д'ябальская ўсмешка.

— Злодзей! Бандыт! — завыў Жаба ў нямым жаху. Ахапіў яго дзікі гнеў, але быў ён бяссільны. Як за імглой, праз брудную шыбу ён бачыў дзядзьку, які спакойна круціў педалямі „Украіны“. Крокаў сорак за ім, адстаючы ўсё больш і больш, гнаўся трэцякласнік Валодзька, размазваючы на твары слёзы і шпурляючы што якісь час у дзядзьку каменьчыкамі, якія жаласна браскаталі па колах. А аўтобус набіраў ужо хуткасці і адносіў нашага героя ў супрацьлеглы бок. Праз хвіліну і браток і дзядзька зліліся ў адну плямку, якая праз момант і зусім прапала за паваротам дарогі. Ідзе жыццё!

Напісаў **Ян Іванюк**

## ПАРНАСІК
### чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

#### САЛАВЕЙ

На беразе ля вярбы
Спявае салавей.
Зварухнуў увесь лес.
Дзяцел выглянуў з дупла,
Загутарылі птушкі
На ўзлеску,
Свет ажыў...
Салаўіны голас
Чуваць у дуброве...

#### МАЛАНКА

Загрымеў гром,
Пакацілася рэха,
Па небе пайшла
Чорная хмара.
Пасля чорнай хмары
Праляцела маланка,
Лінуў дождж...
Па нівах, па рэчцы, па лесе.
Нарастае
Духмянае паветра!

#### ЗАГОНЫ

Па загонах серпік
Жаў матчынымі рукамі
Жыта.
А колькі тых зярнятак жыта
Змалолі ў жорнах
Маміны рукі,
Пяклі буханкі хлеба
Такія цёплыя, духмяныя!..
Матчынымі рукамі
Падаваўся хлеб на стол.

**Валянціна Дзенісюк**

### САБАКІ НА „МАЗУРАХ“

На гайнаўскіх „Мазурах“ будуюць блокі, нават даволі спраўна. І, як на кожнай будове, ёсць і тут сторож. Добра, што ёсць сторож. Але кепска, што гэты сторож абзавёўся цэлым ган'ём сабак без увязі! Сабакі кідаюцца на людзей, якія ўжо пачынаюць жыць у скончаных блоках на тых „Мазурах“. Адзін мужчына абараніўся ад сабак толькі таму, што быў ён у гумовых ботах. Нейкая жанчына адмахвалася ад брахуноў сумачкай, мой ты Бог! А што будзе, калі дзіця якое пападзецца на сабачыя вочы? Загрызуць!

Калі гэтаму сторожу бракуе розуму, то можа міліцыя асвеціць яго?

**Асот**

## ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

### ЧЭРАПЫ Ў ШУДЗЯЛАВЕ

Слаўка Пратасэвіч з Крынак так мне сказаў на тым тыдні:

— Слухай, у Шудзялаве будуюць новую школу, але ці ты чуў, што рабочыя знаходзілі, капаючы фундаменты? — чэрапы! Ага, чэрапы людзей. І аздобы ўсялякія пры іх, такія бронзавыя... Чэрапаў не бралі дахаты, але аздобіны некаторыя пабралі, во, адну накшталт падвойнага ці патройнага ромба, адзін над адным усё меншы. Дзіўныя аздобы. Мне, чуеш, падумалася, што даўней на месцы, дзе цяпер паставілі той будынак школе, мусіў быць могільнік, хто ведае, а ці не старажытны які... А гэта ж, можа быць, наша гісторыя? Напішы ў „Ніву“ пра гэта, каб беластоцкі музей пацікавіўся знаходкамі, няхай прыедзе ў Шудзялава — яно блізка Крынак — добры гісторык і паглядзіць, што нарабілі будаўнікі. Майстры ў нас, сам ведаеш, якія: цемната, не дадумаліся, каб пазваніць у музей. Крынкі вельмі старажытныя, але і Шудзялава, відаць, таксама, бо ж гэта тая самая ваколіца, у якой ужо ад тысячы год народ жыве, яшчэ ад часоў Полацкай Зямлі і Русі Кіеўскай. Вось жа ў пяці кіламетрах ад таго Шудзялава, на ўскраі Кнышэвічаў, адкрылі нядаўна, і то дзякуючы „Ніве“ якраз, сярэдневяковы могільнік, і ў Гаркавічах, пра якія нават здогад ёсць, што гарадзішча там было. У нашай зямлі багата гістарычных рэчаў ляжыць, якія часта знішчаем па сваёй несвядомасці. Мала хто дадумваецца, што нашы продкі жылі тут тысячу і больш гадоў назад, а ўсё глядзім так, як бы свет у старонні нашым пачаўся пры паншчыне, не даўжэй. Чаму мы так блізка глядзім? Нам трэба азірацца на вякі многія і тысячагоддзі, бо ў іх пачынаўся наш сённяшні дзень, адтуль наша мова і наш лёс, і ўсё тое, што называем характарам тутэйшага народу. Усяму свая прычына.

**(С.Я.)**

 




Кааператыўныя банкі, якія існуюць у кожнай гміне, створаны, каб дапамагаць сялянам. Адміністрацыйна падлягаюць яны Ваяводскаму аддзелу банка прадуктовай гаспадаркі ў Беластоку. Аб ролі, якую яны адыгрываюць у жыцці вёскі, паінфармаваў нас дырэктар Банка прадуктовай гаспадаркі тав. Юзэф Стэльмашынскі.

Кааператыўныя банкі Беласточчыны ў мінулым годзе пазычылі сялянам 3740,4 млн. зл., а за першае паўгоддзе 1987 года — 2400 млн. зл.

Найбольш грашовых выплат прыпадае на групу пазык гаспадарча-інвестыцыйных, звязаных з сельскагаспадарчай вытворчасцю. І так, у 1986 годзе дасягнулі яны сумы 2837572 тыс. зл., а за 6 месяцаў бягучага года — 4900 млн. зл.

Гэтыя сухія цыфры сведчаць аб тым, што сялянам кааператыўныя банкі дапамагаюць не толькі купляць сельскагаспадарчую тэхніку, але таксама дапамагаюць будаваць гаспадарчыя будынкі, праводзіць іх рамонты, а нават будаваць уласныя дамы, з усімі выгодамі.

На пабудову і рамонт жылых памяшканняў кааператыўныя банкі ў мінулым годзе выплацілі людзям 475127 тыс. зл., а да канца чэрвеня 1987 года — 241637 тыс. зл.

Другою важнай пазыкавай дзялянкай дапамогі кааператыўных банкаў з'яўляецца рамяство, прыватны гандаль і паслугі. У мінулым годзе рамяство, прыватны гандаль і паслугі атрымалі пазык на суму 211990 тыс. зл., а за мінулае паўгоддзе — 98418 тыс. зл. Пазыкі задаволілі як інвестыцыйныя патрэбы, так і патрэбы, звязаныя з бягучай прадукцыяй.

І яшчэ коратка аб адной важнай дзялянцы дзейнасці кааператыўных банкаў. Датычыць яна прыдзелу пазык на ратальныя пакупкі. У мінулым годзе склала яна суму 81366 тыс. зл., а да канца чэрвеня бягучага года — 44561 тыс. зл.

Мінулы 1986 год даў добрыя вынікі кааператыўным банкам у галіне продажу дзяржаўнага фонду зямлі індывідуальным гаспадарам. Гадавы план продажу прадбачваў 1540 га. Быў ён перавыкананы на 150,4 га. У Бельску-Падляшскім, Заблудаве, Орлі, Чыжах, Гайнаўцы, Гарадку, Саколцы, Кузніцы-Беластоцкай, Дуброве-Беластоцкай, Суражы, Сямяцічах і Турослі-Касцельнай банкі прадалі ў мінулым годзе больш як па 30 га зямельных угоддзяў.

Кааператыўныя банкі даюць таксама пазыкі на куплю зямлі ў прыватным абароце сельскагаспадарчых нерухомасцяў. У мінулым годзе банкі нашага ваяводства пазычылі 88,8 млн. зл., прададзена і куплена было 582 га зямельных угоддзяў, а ў бягучым годзе лік гэты падвоіўся: прададзена і куплена за першае паўгоддзе 1248 га зямлі.

Як відаць з вышэй прадстаўленых фактаў, кааператыўныя банкі, як добры і заможны дзядзька, пазычаюць людзям высокія сумы грошай. Можа паявіцца пытанне: а як людзі аддаюць назад пазычаныя грошы, бо ўсім жа вядома, што лягчэй браць грошы, цяжэй іх аддаваць?! Аднак з гэтай справай не так дрэнна. Гадавы план сплаты пазык у маштабе ваяводства выкананы быў за 1986 год у 110,8. Вядома, гэтаму спрыяла ў значнай меры дырэкцыя Банка прадуктовай гаспадаркі ў Беластоку, якая абавязвае сваіх працаўнікоў сачыць за выкананнем пазычаючымі людзьмі прынятых на сябе абавязкаў тэрміновай сплаты пазыкі.

Трэба асабліва падкрэсліць яшчэ адзін факт, а менавіта, што кааператыўныя банкі выконваюць вялікую і працаёмкую работу, звязаную з выплатай грошай сялянам за прададзеную дзяржаве сельскагаспадарчую вытворчасць і ў тым ліку штомесяц за малако.

Кааператыўныя банкі вядуць таксама справу ашчаднасцей на банкавых кніжках і ашчаднаразлікавых рахунках, на якіх знаходзіцца амаль 10 мільярдаў зл., а таксама вядуць кніжкі, прэміраваныя трактарамі „Урсус Ц-353". У мінулым годзе было выйграна 5 трактараў, а ў бягучым годзе — 3.

Спомненыя ўстановы шырока прапагандуюць кніжкі сістэматычнай ашчаднасці на жыллёвае будаўніцтва. Напрыклад, за 10 год такой ашчаднасці атрымоўвае чалавек ад уложанай сумы 15% прэміі. Пры гэтым, што вельмі важнае, — разам з падаражэннем будаўнічых матэрыялаў адпаведна ўзрастае і спомненая прэмія.

Гэта новая форма яшчэ не распрапагандавана і таму пакуль што такіх ашчадных кніжак налічваецца каля 2 тысяч. А варта ўзяцца за такую сістэматычную ашчаднасць на будову дамоў, асабліва маладому пакаленню і тым, якія хочуць у будучыні сваім дзецям дапамагчы ў будове ўласных кватэр.

**Міхась Хмялеўскі**




## АШУКОЎВАЕ І НЕ БАІЦЦА

У нас цяпер так, што не можна плаціць майстру наперад: заплаціш, тады наракай сам на сябе, бо майстар грошы ўзяць — возьме, але работы табе за іх ужо не зробіць. Я раней не верыў, калі хто гаварыў мне пра такое, аж пакуль сам не пераканаўся. Трэба было паставіць помнік на магіле маці і я, дубіцкая наіўнота, знайшоў майстра ў суседняй вёсцы (такі заказ даходзіў тады да сямідзесяці тысяч злотых). Пачуў я ад яго абяцанку, што да Правадное нядзелі помнік будзе гатовы; дамаўляліся мы ўвосень. Я меўся змураваць фундамент пад помнік, так і зрабіў у пачатку вясны, калі прымаразь адлягла. І майстар прывёз гатовы ўжо помнік, і я давай яму дапамагаць ставіць яго на магіле. Але, бачу я, шмат-чаго яшчэ бракуе гэтаму помніку, і кажу майстру; чаму ўсяго няма? Не было таблічкі з надпісам, не было элементаў абгародкі, словам: помнік не зусім у цэласці. А ён мне адказвае, што ўсе тыя „кавалкі" ён парабіў, але не прывёз, бо... свежыя яны, мацуюцца, як і трэба, калі што з бетону робіш... Я паверыў, бо я не люблю не верыць чалавеку.

Майстар зрабіў, што мог, і стаіць перада мною чакаючы платы. І калі зглядзеў, што я вагаюся, дадаў: „Ну, будзе, усё будзе зроблена". І я, як добры дурань, даў яму ўсе грошы, значыць: тыя семдзесят тысяч. Ён, відаць, не спадзяваўся таго, бо нават усміхнуўся і прасакатаў неяк жвава, што напэўна паробіць недаробленае. І столькі я яго і бачыў пасля. Спрабаваў я потым дабівацца свайго, але дзе там! — і не пытай пра рэшту.

Іншы раз думаю: чаму ёсць такія людзі, і як могуць жыць яны сярод нас? Жывуць яны махлярскай мудрасцю: „На мой век дурняў стане". Але як так жыць, я ўсё не разумею. Гэта ж нейкая быдлячасць у чалавеку, бандыцтва.

**М. Панфілюк**

## БУДУЧЫНЯ ДЛЯ „БУДУЧЫНІ"

Калі ў 1984 годзе пачаў ПБРОЛ будову ў Бельску новых будынкаў на пляцы інваліднай арцелі „Будучыня", у радах новых будынкаў меліся быць усякія паслуговыя салоны, склады, установы, а таксама аддзел рэабілітацыі для цяжка хворых інвалідаў. Як бачу, не вельмі рэальнае ўсё гэта, у бягучым годзе нічога не будзе закончана, хоць меліся закончыць у месяцы снежні. А ўжо сорак сем асоб напісала просьбы, каб прынялі іх на работу ў гэтых будучых установах. У іх павінны працаваць найбольш пакрыўджаныя лёсам інваліды, і такія, што толькі на возіках могуць перасоўвацца. Цяпер і сярод маладых людзей шмат інвалідаў.

Тут вялікая просьба да палітычна-адміністрацыйных улад нашага бельскага горада, каб дапамаглі падтрымаць адпаведныя тэмпы гэтай будовы, якая мае вялікае значэнне для будучыні „Будучыні".

**Андрэй Гаўрылюк**

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na pismo z dnia 12 sierpnia 1987 roku dotyczące artykułu Michała Chmielewskiego „Ulgi są konieczne" wyjaśniam, że problematyka dotycząca warunków gospodarowania przez rolników w rejonie wschodnim województwa białostockiego jest znana miejscowym władzom i na przestrzeni ostatnich lat była przedmiotem wnikliwych analiz, w wyniku których podejmowano działania zmierzające do poprawy istniejącego stanu, a między innymi:

— powszechnie stosowano 50% obniżki ceny sprzedażnej gruntów i umożliwiano korzystanie z obniżek indywidualnych,

— przydzielano poszukiwane maszyny rolnicze z puli rezerwowej wojewody przeznaczonej dla nabywców gruntów,

— przydzielano reglamentowane materiały budowlane oraz stosowano inne formy pomocy.

Preferencje, o których mowa nie przynoszą oczekiwanych rezultatów, bowiem zainteresowanie nabywaniem ziemi przez rolników indywidualnych w rejonie wschodnim województwa jest stosunkowo niewielkie.

W istniejącej sytuacji jako jedynie skuteczny i perspektywicznie trwały sposób zagospodarowania ziemi „niechcianej" w wymienionym rejonie, przyjęto sektor uspołeczniony w tym głównie przez istniejące i nowo tworzone państwowe gospodarstwa rolne.

Zapewniając priorytet sprzedaży gruntów rolnikom indywidualnym, Wojewódzka Rada Narodowa w Białymstoku w dniu 27 lutego 1986 r. akceptowała kierunki gospodarki ziemią do 1990 roku, występując jednocześnie do Przewodniczącego Rady Państwa o udzielenie pomocy w rozwiązaniu narastającego problemu zagospodarowania ziemi, który wykracza poza realne możliwości województwa.

By uwzględnić występujące trudności, zachodzi potrzeba udzielenia pomocy organizacyjnej i wsparcia ze strony Państwa w formie przyjęcia następujących rozwiązań prawnych i organizacyjnych:

— wprowadzenie nisko oprocentowanego kredytu o stopie procentowej 2—3% w skali rocznej z okresem karencji na 10 lat i terminem spłaty do 50 lat. Kredyt ten jako celowy powinien być ponoszony ze środków rzeczowych na budownictwo i wyposażenie gospodarstw w maszyny rolnicze oraz środki trwałe,

— zastosowanie ulg w spłatach za melioracje i zaopatrzenie w wodę w wysokości 50% rocznej opłaty rolnikom posiadającym co najmniej 5 ha,

— umożliwienie rencistom użytkowania gruntów PFZ, bez obciążeń z tytułu użytkowania w sytuacji, gdy brak jest na te grunty innych użytkowników,

— wprowadzenie daleko idących ułatwień jednostkom obsługującym rolnictwo poprzez wydłużenie spłat kredytu z 3 do 6 lat oraz obniżenie stopy procentowej o 50%,

— zapewnienie dodatkowych przydziałów ciągników, maszyn towarzyszących, materiałów budowlanych oraz reglamentowanych środków produkcji w celu wywołania zainteresowania ziemią i aktywizacji środowiska,

— stworzenie dogodniejszego systemu ekonomicznego dla PGR z tytułu trudnych warunków gospodarowania i niedoinwestowania na gruntach zwłaszcza jakościowo słabych, co dotyczy jednostek nowo utworzonych w latach 1975—1985 w Bielsku Podlaskim, Krynkach, Kleszczelach, Kuźnicy, Sokółce i Wasilkowie. Umożliwi to uzyskanie przez te jednostki poziomu organizacyjnego, który pozwoli na pełne wykorzystanie potencjału produkcyjnego ziemi oraz przejmowanie do zagospodarowania nowych gruntów PFZ,

— zapewnienie z budżetu centralnego środków niezbędnych do powołania w bieżącym pięcioleciu nowych przedsiębiorstw gospodarki rolnej w rejonie Gródka, Milejczyc, Nurca Stacji oraz Mielnika,

— zapewnienie rolniczym spółdzielniom produkcyjnym środków na budownictwo mieszkaniowe lub zapewnienie na ten cel niskoprocentowego kredytu, celem stworzenia warunków do zagospodarowania wypadającej z produkcji ziemi w rejonie działania RSP,

— zwolnienie młodych rolników — nabywców gospodarstw rolnych oraz przejmujących gospodarstwa następców od podatku rolniczego na okres 10-ciu lat,

— wprowadzenie skutecznych instrumentów ekonomicznych zapewniających opłacalność produkcji na glebach lekkich w oparciu o rzetelną analizę uzyskiwanych efektów i kosztów produkcji na glebach klasy V i VI oraz zaliczenia woj. białostockiego w całości do IV okręgu podatkowego.

Jak wynika z uzyskanej informacji Dyrektora Gabinetu Przewodniczącego Rady Państwa (pismo z dnia 12 grudnia 1986 r.) w sprawie zagospodarowania gruntów we wschodniej części województwa, podjęte zostały kompleksowe działania, które od razu nie rozwiążą problemu lecz wpłyną poważnie na jego złagodzenie.

Potrzebę preferencyjnego traktowania rolnictwa na białostockiej „ścianie wschodniej" władze województwa sygnalizują na szczebel centralny od szeregu lat. Obecnie — jak należy sądzić — starania te odniosą przynajmniej częściowy skutek.

O podjętych decyzjach Urząd Wojewódzki powiadomi redakcję.

Rzecznik Prasowy
**Wojewody Białostockiego**
**mgr Grzegorz Rykowski**



 

## БЕЛАРУСІКІ

Barszczewski Aleksander, Janka Bryl. *Literatura na Świecie* 1971, nr 7, s. 218—219.

Barszczewski Aleksander, Janka Kupała. *Konstrasty* 1972, nr 6, s. 22—23.

Barszczewski Aleksander, Historia literatury białoruskiej, cz. 1, Folklor. Warszawa UW, 1976

Barszczewski Aleksander, Janka Kupała — poeta więzi polsko-białoruskiej. *Przegląd Humanistyczny* 1984, nr 9/10, s. 1—23.

Barszczewski Aleksander, W poszukiwaniu autentyzmu. (Współczesna literatura białoruska). *Literatura na Świecie* 1982, nr 11, s. 13—23, il.

Bartkiewicz Wiesława, K woprosu o kompozicyi powiestiej Wasilija Bykowa 70-je gody. *Prace Humanistyczne. Towarzystwo Naukowe w Rzeszowszczyźnie Wydział Nauk Humanistycznych i Społecznych*, Seria I, 1979, nr 15, s. 7—17.

Bazela Elżbieta, Stochel Elżbieta, Wiśniewska Elżbieta, Rossica, ukrainica, białorutenica na łamach „Wiadomości Literackich”, Bibliografia. *Studia polono-slavica-orientalia. Acta Litteraria* 1976, t. 3, s. 131—173.

Beaucournu Jean-Claude, Arzamasow Iwan, Présence en Biélorussie de Polyplax hannswrangeli Eichler, 1952 (Insecta Anoplura). Caractérs différntiels de ce pou avec les espéces affines de Polyplax parasitant les Campagnols de Polygeners Clethrionomys et Microtus dans la region palearctique. *Acta Parasitologia Polonica* vol 15, 1967, fasc. 22/39, s. 241—245, rys. Rez.

Bechczyc-Rudnicka Maria, Nowocześnie i wiernie. (Występy Białoruskiego Akademickiego Teatru im. Janki Kupały w Lublinie). *Kamena* 1975, nr 10, s. 10, il.

Bednarczuk Leszek, Wokół etnogenezy Białorusinów. Acta Baltico-Slavica t. 16, 1984, s. 33—48, mapa.

Belaruskaje movaznaustva. Bibliograficny ukazalnik (1966—1975). Mińsk 1980. Rec. Kondratiuk M., Raudeliunas V.; *Acta Baltico-Slavica* t. 7: 1970, s. 319—323; Smułkowa E., *Slavia Orientalis* R. 17, 1968, t. 1. s. 115—116.

Bełaruska-polskija izaleksy, Mińsk 1975. Rec. Leszczyński Z., *Język Polski* R. 57, 1977, z. 1, s. 61—64.

Bergman Aleksandra, Komunistyczna Partia Zachodniej Białorusi 1924—1928, *Rocznik Białostocki* 1966, t. 6.

Bergman Aleksandra, Kwestia białoruska w Komunistycznej Partii Zachodniej Białorusi, *Przegląd Historyczny* 1971, z. 2., s. 225—250.

Bergman Aleksandra, Bronislaw Taraszkiewicz. Szkic biograficzny, *Przegląd Historyczny* 1972, z. 2.

Bergmanowa Aleksandra, Bialoruski Tygodnik „Nasza Niwa” (10.XI.1906—7.VIII.1915), *Kwartalnik Historyczny* 1972, nr 3, s. 563—582. Rez.

Bergman Aleksandra, Antoni Łuckiewicz (1884—1946), szkich biograficzny. *Przegląd Historyczny* 1974, nr 4.

Bergman Aleksandra, Wracając do zagadnienia Hromady, *Przegląd Historyczny* 1975, z. 2.

Bergman Aleksandra, Przyczynek do historii Białoruskiej Organizacji Rewolucyjnej, *Przegląd Historyczny* 1977, z. 1, s. 157—170.

Bergman Aleksandra, Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu, Warszawa 1977. Rec. Koźniewski Kazimierz, *Polityka* 1978, nr 25, s. 13; Dymek Benon, *Nowe Książki* 1978, nr 9, s. 65—66, il.; Pezowiczowa Zofia, *Kontrasty* 1978, nr 9, s. 49; Bardach Juliusz, *Kwartalnik Historyczny* 1979, nr 1, s. 229—233; Tomaszewski Jerzy, *Z Pola Walki* 1978, nr 3, s. 299—301.

Bergman Aleksandra, Włodzimierz Samojło-Sulima wobec Kwestii białoruskiej w Polsce międzywojennej, *Przegląd Historyczny* 1983, z. 4, s. 653—676.

Bergman Aleksandra, Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej, Warszawa 1984. Rec. Szachowicz Michał, *Kontrasty* 1985, nr 4, s. 40—41; Wróbel Piotr, *Nowe Książki* 1985, nr 12, s. 128—130; Januszkiewicz Franciszek, *Rzeczpospolita* 1985, nr 34, s. 4; Jurkiewicz Jan, *Przegląd Historyczny* t. 78, 1986, z. 1, s. 159—163.

Białokozowicz Bazyli, Conditio sine gua non przyszłej encyklopedii (Błędne hasła dotyczące pisarzy radzieckich i rosyjskich). Wyjaśnienie redakcji „Wielkiej Encyklopedii Powszechnej PWN”. *Przegląd Humanistyczny* 1969, nr 1, s. 111—116.

P.C.

**Вынаходніцтва і рацыяналізатарства**

### НЯВЫКАРЫСТАНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ

Крыніцай грамадска-гаспадарчага прагрэсу можа быць сёння толькі навукова-тэхнічная творчасць, вынаходніцтва, удасканальванне прадукцыі. Аднак вядома, што энергапаглынальнасць і матэрыялаёмкасць прадукцыі ў 1,5-3 разы вышэйшая, чым у высокаразвітых краінах. У Польшчы здзяйсняецца амаль у два разы менш вынаходніцкіх прапаноў, чым у ГДР і Чэхаславакіі. Калі колькасць праектаў на аднаго чалавека, працуючага ў прамысловасці ў ПНР, паводле статыстычнага гадавіка за 1986 год у сярэднім складае 0,027, дык у Японіі гэтым паказчыкам ужо ў 1980 годзе была лічба 13. Вось адсюль якраз і бярэцца высокая якасць японскіх вырабаў. У перыяд энергетычнага крызісу фірма „Таёта“ на працягу аднаго года знізіла расходаванне энергіі на 22 прац. толькі дзякуючы хуткаму выкарыстоўванню рацыяналізатарскіх прапаноў.

У Польшчы ж да гэтага часу толькі каля 3 прац. рабочых і 10 прац. інжынераў і тэхнікаў з'яўляецца рацыяналізатарамі. У гэтай справе ў нас не хапае матэрыяльнага зацікаўлення. Праўда, у апошні час адносіны да рацыяналізатараў змяніліся на карысць. Праведзены аналіз сведчыць аб тым, што рацыяналізатарам неабходна зялёнае святло. Спецыялістамі ж падлічана, што кожная залатоўка, укладзеная ў вынаходніцтва і рацыяналізатарства на Беласточчыне ў 1986 годзе, прынесла 8,12 зл. эканамічных эфектаў, якія наогул дасягнулі сумы 1 мільярда злотых. Кожная выкарыстаная рацыяналізатарская прапанова прынесла ўжо ў сярэднім 792 тыс. зл.

#### У ІНСТЫТУЦЕ ЭНЕРГЕТЫКІ

На Даследчым прадпрыемстве Інстытута энергетыкі ў Беластоку вынаходніцтва з'яўляецца падставай яго дзейнасці. А вось некалькі прыкладаў з гэтай установы.

1. Прымяненне камплекта для дэмантажу ізалятараў ЛСП, аўтарамі якога з'яўляюцца д-р інж. Збігнеў Астроўскі і інж. Анатоль Хомчык, прынеслі народнай гаспадарцы 9 млн. зл. ашчаднасці.

2. Абсталяванне для плаўкі і ліцця медзі, створанае калектывам у складзе: д-ра інж. Збігнева Астроўскага, Анатоля Сідарчука, Яўгена Хамені, Ірэны Глябовіч, Евы Дудзіч і Веслава Крушэўскага, — дало гаспадарцы больш 3,5 млн. зл. даходу.

3. Укараненне ў прадукцыю туліпанавага заціску патэнта КВК Шчыгловіцы, аўтарам якога з'яўляецца Чэслаў Голец, прынесла народнай гаспадарцы 10 млн. зл.

#### У ДАРОЖНІЦТВЕ

На прадпрыемствах, якія знаходзяцца ў ведамстве Акруговай дырэкцыі публічных дарог у Беластоку, прымяненне комплекснай механізацыі выконвання новых і паглыблення існуючых дарожных раваў паводле праекта Мікалая Ваўранюка прынесла ўжо больш 2 млн. зл. ашчаднасці.

Апатэнтаванае абсталяванне для вымярэння паверхні (дарожнай і вулічнай), прадукцыя якога прынесла 2,5 млн. зл. эканамічных эфектаў, вынайдзена Юзэфам Красоўскім.

**Міхась Хмялеўскі**

## БІБЛІЯГРАФІЯ

### КРЫЛАТАЯ МУДРАСЦЬ НАРОДА

Гісторыя выдання слоўнікаў на Беларусі, як і ўвогуле кнігавыдавецкая дзейнасць тут, мае добрыя і старадаўнія традыцыі. Чытачы нашы, бадай, ведаюць, што першы беларускі слоўнік — „Лексіс“ Лаўрэнція Зізанія — выйшаў у свет яшчэ ў 1596 годзе. Тым не менш толькі ў наш час нарадзілася ідэя слоўніка крылатай мудрасці нашага народа ў яе жывым літаратурным бытаванні. І ажыццявілі гэтую ідэю вядомы філолаг Рыгор Шкраба і яго сааўтар Ірына Шкраба.*)

Слоўнік беларускіх прыказак і прымавак атрымаў даволі характэрную назву — „Крынічнае слова“. Зграбны томік у зялёнай з залатым цісненнем каленкаравай вокладцы змяшчае больш за трыста крылатых выслоўяў, многія з якіх нават маюць трапную ілюстрацыю (мастак У. Доўгань) у стылі старадаўніх скарынаўскіх гравюр. Акрамя таго, маецца змястоўны ўступны артыкул аб своеасаблівасцях такога жанру фальклору, як крылатыя выслоўі, і, абавязкова, тлумачэнні аб структуры слоўніка.

24 раздзелы слоўніка арганізаваны па алфавітным прызнаку. Кожнае выслоўе мае адзін або некалькі прыкладаў з мастацкай літаратуры, а ў асобных выпадках даюцца яшчэ і аўтарскія тлумачэнні сэнсу. Такая канструкцыя слоўніка не толькі дазваляе больш паглыбіцца і зразумець народную мудрасць, але і выконвае значную прапагандысцкую функцыю па распаўсюджванню дасягненняў беларускай літаратуры. Сапраўды ж, прачытаўшы якісьці ўдалы фрагмент з паэтычнага ці празаічнага твора, мімаволі хочаш пазнаёміцца з ім цалкам. А сярод гэтых фрагментаў жа — і дыялекты сучаснага беларускага савецкага пісьменства (У. Караткевіч, І. Мележ, Р. Барадулін, У. Содаль, Л. Дайнека і г.д.), і неўміручая скарбонка нашай класікі (В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Купала, Я. Колас, Ядвігін Ш., М. Нікановіч, У. Галубок, К. Каганец і іншыя).

Зразумела, слоўнік „Крынічнае слова“ не ўсеабдымны (змест яго шмат у чым, напрыклад, не супадае нават з раздзелам „Мудраслоўі“ універсітэцкай серыі „Беларускі фальклор у сучасных запісах“). Але як пачатак работы па збору і прапагандзе крылатай мудрасці беларускага народа выданне гэта шматабяцаючае.

**В. Мартыненка**
*(Ганарар на музей)*

*) Р. Шкраба, І. Шкраба „Крынічнае слова“ Мн. „Мастацкая літаратура“, 1987, стар. 283.

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

### СВАТАННЕ

Цяжка знайсці ў мінулым Беларусі, Польшчы, Літвы і Украіны другую такую падзею, якая ад моманту яе нараджэння і па сённяшні дзень атрымала б столькі ж самых разнастайных і супярэчлівых ацэнак, як Крэўская унія 1385 года, заключаная паміж Вялікім княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім. Адны гісторыкі з непрыстойнай лаянкай кляймяць за тое, быццам бы, ад яе „пачалося пранікание на тэрыторыю Беларусі, Літвы і Украіны замежнай агентуры ў асобе каталіцкага духавенства „ды на беларускіх землях пачалі гаспадарыць польскія феадалы“, а іхнія калегі, таксама гісторыкі, на розныя лады ўсхваляюць тую ж унію і славяць за тое, што, нібыта, „адразу пасля яе падпісання заходнееўрапейскія культурныя і цывілізацыйныя дасягненні бесперашкодна хлынулі на ўсход“ і дзікунскую пустэчу абярнулі ў высокакультурны край. Не будзем растрасаць ніводнага з гэтых поглядаў проста таму, што ўсе яны аднабокія, неаб'ектыўныя і не ацэньваюць Крэўскую унію з пункту гледжання інтарэсаў беларускага народа. Няма сумнення, што ў выніку працэсаў перабудовы і аднаўлення, якія ідуць цяпер у БССР і Польшчы, запаўненне і гэтай „белай плямы“ ў мінулым нашых краін, спадзяемся, не прыдзецца доўга чакаць. Мы ж тым часам прыгадаем асноўныя факты.

Набліжэнне Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага, не кажучы ўжо пра Мазоўша, не было выдумкай ні кракаўскіх вяльможаў часоў Людвіка Андэгавенскага (Анжуйскага), ні Ягайлы-Якава. Як вядома, за апошнім Пястам на кракаўскім троне, каралём Казімірам Вялікім, была замужам родная Ягайлава цётка Альдона-Анна, жонкай мазавецкага князя Януша была траюрадная сястра Ягайлы Данута-Анна, урэшце за другога мазавецкага князя Семавіта выйшла родная яго сястра Аляксандра. Былі і іншыя замужжы і жаніцьбы паміж княжымі родамі Вялікага княства і Польшчы.

Граніца паміж гэтымі дзяржавамі таксама не была неперадольнай кітайскай сцяной і для звычайных людзей. Праз яе ў абодва бакі ішлі караваны цяжка наладаваных рознымі таварамі купецкіх вазоў, ехалі вандроўныя рыцары, брылі пілігрымы. З заходніх краін і Польшчы цягнуліся гужы рамеснікаў, якія ў Вялікім княстве шукалі лепшых умоў працы і жыцця. Дастойна пасоўваліся невялікія групкі місіянераў-манахаў, найчасцей — францішканаў. Патайнымі глухімі сцежкамі, азіраючыся, перабягалі міждзяржаўную мяжу розныя ўцекачы ды перабежчыкі, сярод

# КАЛЕКТЫЎ З НАРАЎКІ

Калектыў у Нараўцы ўзнік у 1985 годзе. У студзені 1985 года да мяне звярнулася Вольга Закройшчык, дырэктар ГОК у Нараўцы, каб я іграў для спявачак, якія рыхтуюцца да конкурсу беларускай песні. В. Закройшчык жыла тады ў школьным будынку і часта чула, як я іграў на гармоніку знаёмыя лёгкія мелодыі.

Я згадзіўся іграць, і пачаліся першыя рэпетыцыі. Мы падрыхтавалі дзве песні і выступілі на аглядзе ў Гайнаўцы. Занялі трэцяе месца і... спадабаліся гледачам. Жанчыны былі задаволены, і з таго часу сталі выступаць на гмінных урачыстасцях. Хутка назбіралася дзесяць вельмі ахвочых да спеву маладых і прыгожых спявачак. Большасць з іх гэта маладзіцы ва ўзросце 25-30 гадоў. У іх малыя дзеці, а вядома, што калі дзеці плачуць, то мамам няма як ісці на рэпетыцыю. Гэта першая цяжкасць калектыву.

Плённым аказаўся 1986 год. Калектыў многа спяваў у гміне, а таксама выступіў у Старым Беразове і Нарве. На конкурсе беларускай песні заняў II месца ў Гайнаўцы, выступаў на цэнтральным аглядзе ў Беластоку. Таксама быў запрошаны на свята беларускай песні ў чэрвені 1986 года, дзе таксама спадабаўся.

Але не ўсё так гладка ідзе. Жанчыны пасправаліся паміж сабою, і дзве спявачкі з добрымі галасамі пакінулі калектыў. У бягучым, 1987 годзе чатыры спявачкі нарадзілі дзяцей, а пятая носіць жалобу. Дайшла да калектыву толькі адна асоба. Такое становішча давяло да таго, што калектыў выступіў няўдала на раённым аглядзе беларускай песні і цяпер, па сутнасці, няма каму спяваць. Новыя галасы пакуль што не прыйшлі.

Вось гэта найбольшая цяжкасць. Незалежна ад калектыву, ГОК — Нараўку прадстаўляў на конкурсе дуэт. Яго ўтварылі працаўніцы школы ў Нараўцы: Люцына Місеюк і Люба Янушкевіч. Яны добра выступілі ў Гайнаўцы і ў Беластоку.

Калі гаварыць пра цяжкасці, то найперш — патрэбны тут музычны інструктар. У Нараўцы многа гадоў няма настаўніка музыкі з музычнай падрыхтоўкай.

Што датычыць рэпертуару, то бярэм яго дзе зможам. Многа песень у Вольгі Закройшчык, многа ў мяне, многа ведаюць нашы спявачкі.

Кіраўніком калектыву ў Нараўцы і яго ўдзельнікам з'яўляецца дырэктар ГОК Вольга Закройшчык — заслужаны дзеяч культуры. У гміне Нараўка



Калектыў з Нараўкі на аглядзе ў Гайнаўцы, 1987 г., злева: Ліля Рубчэўская, Аля Кабаць, Зіна Пацэвіч, Зіна Каліноўская, Ліля Дамброўская, Вольга Закройшчык.



Дуэт з Нараўкі на аглядзе ў Гайнаўцы, злева: Люба Янушкевіч і Люцына Місеюк.

існуюць і калектывы ў вёсках: Ляўкова, Міклашэва, Семяноўка, Баб'я Гара. Толькі адзін ляўкоўскі хор мае кіраўніка з музычнай падрыхтоўкай.

Так пайшло на нашай вёсцы, што бракуе музыкантаў. Дзе ёсць настаўнік музыкі, там добра, дзе няма, можна толькі разлічваць на энтузіязм.

Такое становішча нашых беларускіх калектываў у Нараўцы.

**Мікалай Варанецкі,**
настаўнік

## ПГР АРЭ ДАРОГІ

Каму гэта перашкаджала дарога з Відава на Агародніцкія хутары? Тая, што праходзіла каля сядзібы відаўскага гаспадара Сярожы Хіліманюка? Наадварот, яна патрэбна, пазначана нават на гмінных планах. Але яе ўзялі і заaралі разбэшчаныя трактарысты бельскага ПГРу, якія тут абрабляюць трактарамі зямлю. Чаму яны так зрабілі? А таму, што ім не хочацца падымаць плугі ў час ворыва, калі даязджаюць да гэтай дарогі. І так прапала дарога. Людзі па памяці зноў уязджаюць яе вазамі і машынамі, а ПГРскія трактарысты ізноў увесну ці пад восень аруць яе да бясследнасці!

Несур'ёзніца нейкая, якую павінна перапыніць бельскае начальства, бо гаварыць гэтым трактарыстам — усё роўна што сцяне! Для свае выгоды яны гатовы і ўсю вёску заараць... Яны заaралі яшчэ адну дарогу каля Відава, тую, што вяла да цагельні Высоцкага. Яшчэ трохі — і вёска застанецца без дарог, быццам выспа ў моры.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ДЗЕ ГАЛАВА, А ДЗЕ РОЗУМ?

У „Газеце Вспулчэснай" Мар'ян Лімэра піша, што ў Гайнаўцы ідзе перабудова вуліцы Першамая. Упарадкоўваюць тратуары. Бяда з „кравэнжнікамі", яны завысока пастаўлены, пешаход мусіць проста пераскокваць цераз іх. Ці ж так робіцца? Які гэта майстар прыдумаў?

Лімэра ўсяго не ведае, бо зусім падобная сітуацыя і на іншых вуліцах, напрыклад, Бучка. Тут, каля станцыі ПКС, бара і рэстараніка, надта вялікі рух народу, падарожных. Ёсць чатыры пераходы, і ўсе яны такія ж высокія. Няцяжка спатыкнуцца, пакалечыцца, асабліва, калі хто стары ўжо або інвалід які.

Дзе галава, а дзе розум у майстроў?!

**Аляксандр Закройшчык**




**Ціхан Трафімюк, Слівава, пош. Кленікі.** У сваім пісьме наракаеце вы, што ўнук ваш малады і дужы, забірае ў вас, старога і слабога, пенсійныя грошы, якія прапівае і потым б'е вас ды выганяе з хаты. А яшчэ дадаеце, што тутэйшы пастарунак МО не заступаецца за вамі.

Гэта панурая гісторыя і спачуваем вам. Вашай справы, вядома, так не пакінем і маем надзею, што будзе спосаб упыніць вашага буйнага ўнука: ёсць жа законы і стража іх!

якіх былі і вялікія князі і звычайныя смерды, нявольнікі, палонныя. Туды і назад разнастайнымі шляхамі швэндаліся розныя пасыльныя, разведчыкі ды шпіёны-рыскуны. Таму і невялікая была розніца ва ўзроўні гаспадаркі, тэхнікі, культуры і наогул жыцця паміж Каралеўствам Польскім, Мазоўшам і Вялікім княствам Літоўскім.

Хоць і не было тады газет, радыё і іншых цяперашніх сродкаў сувязі, але на Ягайлавым вялікакняскім двары ў Віцебску ці Крэве вельмі добра ведалі, што дзе дзеецца. Таму Віцебск і Крэва — бо рэзідэнцыяй Ягайлы і яго маці Ульяны былі якраз гэтыя гарады, а не Вільня ці Трокі, дзе „сядзеў" Скіргайла — вельмі рана звярнула ўвагу на дзве надта ж пасажныя каралеўны Марыю і Ядвігу, дочкі венгерскага караля Людовіка Андэгавенскага. А калі 15 кастрычніка 1384 г. ва ўтульнай вавельскай капліцы на галаве малодшай Людовікавай дачкі Ядвігі спачыла каралеўская карона, рух паміж Віцебскам і Кракавам узмацніўся: недзе ў Дарагічыне ці Бярэсці міналіся сустрэчныя імклівыя ганцы, у высокіх пакоях замкаў у Крэве і Кракаве дастойныя галовы схіляліся ў патайных размовах.

Вядома, зусім не кліч сэрца кіраваў зрок 35-гадовага Ягайлы ў бок Кракава і не дзеля сямейнага з ім шчасця свае тады 11-гадовай каралевы кракаўскія вяльможы падаваліся ў далёкія Віцебск ці Крэва. Былі дзесяткі важкіх прычын, якія схілялі аслабелую за панаванне Людовіка і затым у бескаралеўе Польшчу да набліжэння яе з таксама аслабленым унутранай барацьбой і крыжацкім націскам Вялікім княствам Літоўскім. Аб гэтых прычынах і спосабах іх вырашэння нам прыдзецца разважаць многа і доўга, бо спрэчкі пра іх не заціхлі па сённяшні дзень.



Замак у Крэве. Мал. У. Петрука.

А тым часам... А тым часам якраз напярэдадні праваслаўнага Хрышчэння Гасподня, у гэтак званую „вадзяную куццю", 18 студзеня 1385 г. уехала ў Кракаў шматлікае Ягайлава пасольства, якое ўзначальваў той жа Скіргайла. Храністы маўчаць, каб яно чым-небудзь звярнула ўвагу кракавян. Відаць, было звычайнае, еўрапейскае, не дзівоснае, не з дзікунскага краю. Мо толькі захапляла багаццем убораў, збруі і зброі, магчыма вылучалася прыстойнасцю і статнасцю сваіх удзельнікаў — гэта ж былі сваты.

З'явіліся яны на Вавелі не столькі, каб пачуць слова ад Ядвігі, бо хоць яна замуж выходзіла, але ніхто нават і не думаў лічыцца з ёю. Размовы адбываліся з кракаўскімі вяльможамі, да якіх належаў лёс гэтага пад-

(Працяг на стар. 11)

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## УСПАМІН АБ ЛЕЦЕ



У вёсцы Дубіны летам быў сарганізаваны дзяцінец. На заканчэнне яго вядомы нам фатограф Валянцін Кандрацюк з Дубіноў зрабіў дзецям памятны здымак. У сярэдзіне сядзяць апякункі.

Фота В. Кандрацюка

## ДАРЫ ЗАЛАТОЙ ВОСЕНІ

Максім Танк

### БАБКА

Ходзіць бабка лесам-гаем,
У хусцінachку збірае:
Даланясты **ліст кляновы —**
Хлеб на ім пячы жытнёвы,
А **дубовы ліст** — для бочкі,
Каб хрумсцелі агурочкі,
А **бабоўнік кучаравы —**
Каб не страціць смак да стравы,
**Ліст малінавы** — для чаю,
Што ад кашлю памагае,
Жменьку **ядлаўцовых ягад —**
Для лячэбных кропель — брагі
Ад дакучлівай ламоты,
Рознай там непамыслоты...
Ачаплялася лістамі,
**Ягаднікамі, імхамі,**
Што, як сядзе ў цень мурожны,
І вавёрка не адрозніць:
Ці то бабка каля сцежкі,
Ці пянёк, ці сыраежка?

**Заданне:**
*Напішыце, якія дары залатой восені збіраеце вы і навошта?*

Алесь Якімовіч

## ЗА АДНОЙ ПАРТАЙ

Усё пачалося з таго, што Валодзю выбралі старастам класа.

І ў гэтым вінаваты я сам. У той час мы з Валодзем жылі, як кажуць, душа ў душу. Сядзелі за адной партай, думалі адны думкі і, калі трэба, дзяліліся апошнім. Я нават падарыў яму свой самы лепшы складаны ножык. А Валодзя кожны дзень даваў мне спісваць рэшаныя ім задачы, добрасумленна паказваў на ўроках, рыхтаваў мне розныя шпаргалкі.

Адным словам, Валодзя быў самым блізкім маім таварышам. Сябруючы з ім, я не меў ніякага гора. І калі зарабляў часам двойкі, дык толькі па вусных адказах. Затое ўсе пісьмовыя работы я спісваў у яго.

Так працягвалася наша моцная дружба да таго дня, у які мяне, відаць, сам чорт турзануў за язык... На класным сходзе я прапанаваў выбраць Валодзю старастам і ледзь не пасварыўся праз гэта з Колем. Коля выступіў супраць Валодзі.

— Ён, — кажа, — добра вучыцца, але недысцыплінаваны. Ён разбэсціў Мішу — гэта мяне! — дазваляе яму спісваць задачы.

Я нарабіў крыку:

— Дакажы!

Коля насмешліва глянуў на мяне спадылба:

— Тут і даказваць няма чаго. Гэта ўсе ведаюць.

Усе ведаюць! Вось дык навіна... Адкуль жа яны ведаюць? Я ж, здаецца, нікому пра гэта не хваліўся. А можа сам Валодзя яму прызнаўся? І тут у мяне закралася нядобрая думка. Я ўжо нават хацеў зняць сваю прапанову наконт таго, каб выбраць Валодзю старастам, ды ў гэты час пачуліся галасы:

— Нічога. Калі Валодзя стане старастам, — падцягнецца. Гэта не прычына, каб яго не выбіраць!

Коля паспакайнеў. Толькі буркнуў сам сабе пад нос:

— Паглядзім.

Я прыкусіў язык.

І вось мой лепшы сябар аднагалосна быў выбраны старастам. І з таго ж дня стаў... здраднікам! Так, так, гэта не памылка!

Увечары, як звычайна, я прыйшоў да Валодзі. Ён быў на двары — карміў свіней.

— Ты рашыў задачы? — пытаюся я ў яго.

— Рашыў.

— Дай мне свой сшытак.

Валодзя раптам пачырванеў і неяк нерашуча заморгаў вачыма.

— А ты сам не рашыў, — заікаючыся, запытаўся ён у мяне.

— Ды я і не рашаў...

Дзіўна, думаю: чаму гэта яму раптам прыйшло ў галаву такое недарэчнае пытанне? Што, я першы раз бяру ў яго сшытак?

Валодзя памыкаў трошкі і кажа:

— А ты паспрабуй сам ра-

(Працяг на стар. 10)

## ДЗЯКУЕМ СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ

Нядаўна ў Беларусі выйшла з друку ў выдавецтве „Юнацтва“ новая кніжка вершаў для дзяцей. Гэта зборнік розных аўтараў „Мы — піянеры...“ Складальнікам яе з'яўляецца вядомы паэт Мікола Чарняўскі. Акazіяй для выхаду такой кніжкі было пяцідзесяціпяцігоддзе піянерскай арганізацыі рэспублікі. Зборнік гэты, як піша складальнік, своеасаблівы летапіс беларускай піянерыі. У ім сабраны вершы беларускіх пісьменнікаў розных пакаленняў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Васіля Віткі, Сяргея Грахоўскага, Кастуся Кірэенкі, Станіслава Шушкевіча, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Васіля Зуёнка і іншых. У кніжцы ёсць шмат цікавых, сур'ёзных і жартоўных, вершаў аб жыцці дзяцей і іх піянерскіх справах.

Кніжку „Мы — піянеры“ прыслаў „Зорцы“ з асабістай дэдыкацыяй адзін са старэйшых паэтаў Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Чытачы нашы добра ведаюць яго творы і па кніжках, і па школьных чытанках, і па „Зорцы“. Вельмі нам прыемна, што паэт памятае і пра нас і пра нашых чытачоў. Сардэчнае вам дзякуй, Станіслаў Пятровіч. Аўтарскі допіс і добрае слова дае нам пуцёўку ў папулярызаванне твораў сярод нашых малых чытачоў. Дзякуем за гэ-

(Працяг на стар. 10)

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ




Гэта невялікія медныя ці бронзавыя шарыкі са шротам унутры. Выкарыстоўваліся як упрыгожанне для жанчын, як абавязковы інструмент для вясельнага поезда, як частка бубна.

